Цана асобнага нумару 17 грошау.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп

№ 14. Вільня, Нядзеля, 13-га ліпня 1924 г. Год I.

## Яшчэ падзел!

У вядомых ужо нашым чытачом „языковых" законапраектах, выпрацаваных урадам п. Грабскага, зусім выразна праводзіцца *падзел Заходняе Беларусі* на дзьве часьці: „беларускую" і „небеларускую". Да першае часьці належаць ваяводзтвы Віленскае, Наваградзкае, Палескае і два паветы Беластоцкага (Горадзенскі і Ваўкавыскі); да другое — рэшта беларускіх паветаў Беластоцкага ваяводзтва—Беластоцкі, Сакольскі, Бельскі (палавіна) і Аўгустоўскі. І паскольку на тэрыторыі Заходняе Беларусі, прызнанай урадам беларускай, даюцца—на паперы — некаторыя правы, пастольку ў межах чатырох памянёных паветаў Беласточчыны беларусы пазбаўляюцца ўсялякіх правоў.

Урад п. Грабскага мала клапоціцца аб тым, што такая пастаноўка справы перш за ўсё *супярэчна з польскай канстытуцыяй і міравымі трактатамі*: там няма нават і найменшага намёку на тое, каб правы „меншасьцяў" былі прызнаваны толькі на нейкай частцы тэрыторыі Польскае Рэспублікі, а на другіх частках—зусім адкідаліся! І мы-бы на гэтым так сама не затрымаліся: *новыя законы аб мове*, ўсё роўна, *на дзеле ня будуць выпаўняцца і ў тых межах, для якіх выданы*! Але мы ня можам змаўчаць, ня можам не запратэставаць проці самога *факту далейшага рэзаньня* і без таго сплываючае крывёй ад старых падзелаў *нашае Бацькаўшчыны*!

Для нас зусім ясна мэта гэткага рэзаньня Заходняе Беларусі: у паветах, прызнаных „польскімі", пачнецца ўжо нічым ня стрымліванае нішчэньне ўсяго беларускага, — а як тутака „работа" будзе скончана, дык тады можна будзе сягнуць яшчэ па частку беларускае зямлі, каб гэтак кусочкамі спольшчыць яе.

І ў гэтай нягоднай рабоце, як мы даведываемся, першую скрыпку іграе партыя польскіх сацыял-нацыяналістаў П. П. С.! Пад той час, як эндэкі накінуліся на нашы заходнія акраіны, *польскія сацыялісты ўлажылі плян адарваньня ад Заходняе Беларусі нашых паудзённых зямель—Палесься*! Партыя дзікіх польскіх нацыяналістаў-захватчыкаў, якая наклеіла сабе „ярлык" з надпісам „сацыялісты", каб да сваіх брудных мэтаў прыцягнуць польскіх работнікаў,—гэтая партыя ўжо ўлажыла цэлую „тэорыю" аб тым, што на Палесьсі жывуць не беларусы і не украінцы (апошнія—на паўдзённых узьмежках), а нейкі *асобны народ*, які дзеля гэтага... павінен быць спольшчаны! А дзеля гэтага польскія сацыялісты выстаўляюць дамаганьне *выдзяленьня Палесься ў асобную аўтаномную адзінку, аддзеленую як ад беларускіх, так і ад украінскіх вялікіх нацыянальных цэнтраў*, каб без перашкод вясьці сваю паляні-зацыйную работу.

Характэрная падробнасьць: каб не карыстацца народнай мовай, якую паны пэпэсы маняцца хутка вывясьці з ужытку, гэтая партыя заклятых ворагаў усялякае „маскоўшчыны" вядзе сваю агідную агітацыю... іменна парасейску! Свае праклямацыі і брашуры выдаюць пэпэсы для Палесься ў расейскай мове і ў тэй-жа мове прамаўляюць на сваіх мітынгах....

Як бачым, польскія сацыял-эндэкі вядуць пасьледавальна тую палітыку, якую распачаў іх лідэр Дашыньскі, каторы палажыў свой „сацыялістычны" подпіс на акце падзелу Беларусі ў Рызе і пасьля цынічна заявіў: „мы вас падзялілі, бо мелі сілу!" — І ў гэтай барацьбе з беларускім народам, у гэтым дзяленьні і нішчэньні беларусаў зыйшліся, нават таго не ўкрываючы, усе польскія партыі—ад крайніх правых да сацыялістаў, апрача толькі камуністаў!

З гэтага беларускі народ павінен зрабіць належныя вывады і на іх апіраць сваю палітыку....

## Выхад беларусау з „Вызваленьня".

Пасьля правядзеньня пры самым чынным учасьці партыі „Вызваленьне" нягодных законаў аб беларускай мове, **паслы-беларусы**, якія йшчэ трымаліся пры **„Вызваленьні"**, парвалі ўрэшце гэтую недастойную сувязь і **выступілі з партыі.**

Паслы Бальлін і Шакун маняцца перайсьці ў **Беларускі Пасольскі Клюб**, з якім заўсёды былі ідэйна зьвязаны.

Аб Галавачу і Шапелю йшчэ напэўна невядома. Няхай-жа выбаршыкі пакажуць ім, дзе іх мейсца!

## Прамова пасла Тарашкевіча.

*на засяданьні Сойму 9-га ліпня 1924 г. ў справе законапраектаў аб мовах.*

Высокі Сойме! Колькі тydняў паміж польскімі партыямі ў Сойме істнавала праўдзівая „sielanka". А гэта-ж яшчэ так нядаўна мы былі сьведкамі гвалтоўных сцэн і сутычак паміж лявіцай і правіцай, як дзеля важных, так і дзеля няважных прычын. Жыва йшчэ стаяць уваччу часы, калі **пасол Тугутт разам з намі, нацыянальнымі меншасьцямі, выбіраў першага Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай**,і часы, калі гэты Прэзыдэнт паў, як сьмяротная **ахвяра праступнае фашыстаўскае агітацыі** партыі пана пасла **Станіслава Грабскага**, мусіў жыцьцё сваё аддаць толькі за тое, што згадзіўся прыняць мандат з подпісамі нацыянальных меншасьцяў. Мінуў год, мінае другі,—і вось **той самы п. Тугутт і той самы п. Грабскі супольна рашаюць аб долі нацыянальных меншасьцяў!** У польскім нацыянальным хоры чуем аб'яднаныя галасы ўсіх „дэмакратыяў" у чужаслове і дэмакратыяў большменш без чужаслову, а іменна нацыянал-дэмакраты, і хрысьціянскае дэмакраты, і пястова-людова-вызваленскай, і ўрэшце сацыялістычнай дэмакраты. І ўсе сьпяваюць назьдзіў згодна, толькі аднатонна, бо пераважна uni sono. У гэты непараўнаны хор некаторую дэтанацыю ўносіць П.П.С., але і яна музыцы не перашкодзе, а толькі крыху ажывіць яе. Бо-ж і як тут перашкаджаць, калі чуваць гэтае старашляхоцкае „кахаймася"! Так гуляюць паны шляхта і сяляне, што строяць сябе ў пёры шляхоцкае традыцыі. Няма толькі на гэтым банкеце ані ліры, ані жалейкі беларускае, няма ані бандуры, ані украінскіх гайдукоў, няма нямецкіх штукароў, дый цябе, Янкель-цымбаліста, нямашака!

Затое здалёку далятае рокат з усходу і раздаюцца падземныя грымоты: гэта—**гнеў народу!**..

Вось абраз акалічнасьцей і адносінаў, пры якіх вылупіліся цяпер на сьвет тры законадаўчыя страхоцьці пад назовам: языковыя ўставы для нацыянальных меншасьцяў.

Яны прыходзяць на сьвет у даволі дзіўных акалічнасьцях, бо зусім неўспадзеўкі для акружаючых і з нябывалай пасьпешнасьцяй. Такога сьпешнага фабрыкаваньня законаў Сойм яшчэ ня бачыў і ня хутка ўбачыць! Польская прыказка кажа: co nagle, to po djable! Але вы, паны. цешыцеся з зробленае работы і трубіце на ўвесь сьвет аб сваей вялікадушнасьці ў адносінах да нас і самі сябе славіце. выхваляючы празорлівасьць свайго дзяржаўнага розуму. „Слухайце, народы! слухай, увесь сьвет! Вось, Польшча братоў Грабскіх і хаўрузіі надае сваім нацянальным меншасьцям magnam chartam libertatum!" Так кажа бадай уся польская буржуазная прэса. Аднак, мы гэтага фабрыкаванага на вываз оптымізму не разьдзяляем. **Мы ня бачым у гэтых уставах ані забясьпечаньня нашых правоў, ані ўважаем іх за выяўленьне нейкае вялікадушнасьці**, што раптоўна, нет ведама скуль, агарнула , зьмягчыла сэрцы такіх закаянных нацыяналістычных грэшнікаў, як п. Станіслаў Грабскі. **Вы робіце гэта**, панове. перадусім **пад націскам вонкавых акалічнасьцей!** Дзеля розных прычын сяньня па ўсім сьвеце жыва цікавяцца справай нацыянальных. меншасьцяў. **Польшча мае гэтых меншасьцяў каля 40 проц. свайго насяленьня.** З гэтага найбольш выпадае на украінцаў і беларусаў, засяляючых свае землі густой масай. **Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна аружнай сілай адарваны ад сваіх матчыных рэспублік.**

Насяленьне гэтых зямель, далучанае да Польскае Рэспублікі, знаходзіцца ў годным жалю палажэньні. **Яго нішчаць матэрыяльна, культурна і нават фізычна.** У яго **адбіраюць зямлю, школу, ды бязкарна зьдзекуюцца над ім і катуюць.** Дзяржава, якая ня можа запэўніць сваім грамадзянам нават найменшае асабістае бясьпечнасьці, вымагае ад іх церазмерных падаткаў, а магчыма ў хуткім часе зажадае і церазмерных ахвяр крывёй і ўсей маемасьцяй. Тымчасам па той бок граніцы **бальшавіцкі ўрад**, хоць з вялікім трудом, але разам і з нязвычайнай упорлівасьцяй **будуе новы дом беларускае дзяржаўнасьці.** (*Голас*: Пан сам з гэтага сьмяешся!) Адкажу пану славамі чалавека, якога трудна западозрыць у якім-колечы бальшавізьме, славамі п. Леона Васілеўскага, каторы ў сваей апошняй працы. дзе ён стараецца паменшыць рух і народ беларускі, кажа гэтак: „як ні як, а сучасная сыстэма, уведзеная ў Беларускай Рэспубліцы, дае беларусам магчымасьць разьвіваць беларускую культуру ў рамках радавага ладу". У такіх абставінах украінцы і беларусы ня могуць доўга маўчаць і цярпліва пераносіць немагчымае палажэньне. Стыхійны **выбух гневу і нездаваленьня** можа затрэсьці самымі **падставамі дзяржавы.** Заграніцай аб усім гэтым вельмі добра ведаюць, і безнадзейна хворай дзяржаве там няма веры і... крэдыту. Гэтымі ўставамі паны **хочаце абаламуціць заграніцу**, атуманіць увесь наш і ваш край (крыкі). Але будзеце мець з гэтым вялікую, трудную і цяжкую задачу, бо мы ўжо зыйшлі з шляху даверчывасьці, мы маем за сабой пяць горкіх гадоў спроб і расчараваньня. Мы бачылі адозву глаўнакамандуючага польскіх войск, Язэпа Пілсудскага, да грамадзян б. Вялікага Князьства Літоўскага. у якой ён урачыста суліў народу магчымасьць самому вырашаць свае справы, і гэная абяцанка скончылася нягоднай пародыяй віленскага сойму і далучэньнем беларускіх зямель да Рэчыпаспалітай без найменшае згоды гэтых зямель. Дзе, хто, калі пытаўся ў беларусаў, ці яны хочуць належаць да польскае дзяржавы? А цяпер дык лёгка казаць, што Польшча ані кусочка зямлі ня дзержыць прымусам. — Мы былі, далей, сьведкамі абвешчаньня „найдэмакратычнейшай" і „найясьнейшай" Канстытуцыі, а адначасна былі і ёсьць сьведкамі грубага гвалтаваньня яе ў сталіцы, на правінцыі і на кожным месцы. Гвалтаваньня кім? Ды бюракратычным нялдам, якім некалі Польшча дзяржалася, ад якога ўпала і, на жаль, дзержыцца цяпер...—Мы былі сьведкамі зацьверджаньня зямельнае рэформы, былі сьведкамі таго, як польскі жаўнер ішоў на ўсход, нясучы гэтую рэформу на сваім штыху. І чым гэта скончылася

для нашага краю? Вось, тым, што зямлю ў нас пачалі адбіраць, а не даваць (—шум).—Мелі, далей, мы чысьленыя абяцанкі прэм'ераў і міністраў; кожын з іх суліў многа, каб нічога пасьля ня даць. Ці то ў вялікіх, ці ў малых справах заўсёды было таксама: ўсё абяцалі, нічога ня далі! Дык вы самі прызнаеце за мной слушнасьць, калі скажу: „Timeo Danaos et dona ferentes“ — баюся вас і тады, калі нешта дорыце!

Гляджу я — і першае, што мне кідаецца ў вочы ў гэтых новых языковых уставах, гэта цана, якую самі сабе вызначаеце за вашу вялікадушнасьць, упарта цьвердзючы, што граніцы Польшчы ёсьць і павінны быць ненарушальнымі. Ужо цяпер—ня ведаю, дзеля чаго: хіба так, на ўсялякі прыпадак...—вы паўторна заанэктавалі аж 4 паветы з беларускім насяленьнем: бельскі, беластоцкі, сакольскі, аўгустоўскі. (*Голас на правіцы*: А можа варшаўскі?). Мы стаім на этнаграфічным грунце, і праца польскага прафэсара Розвадоўскага, якая можа мець вагу для вас, паказуе там наагул беларускі элемэнт, ды нават ваша статыстыка выяўляе там значную лічбу беларусаў. (*Голас на правіцы*: Дык і ў Варшаве ёсьць беларусы). Так, ёсьць і ў Варшаве і нават тут, на гэтай трыбуне. — Вось-жа дзеля гэтага пытаюся ў паноў, ці ў гэтых паветах ужо зусім адкрыта мае адбывацца гвалтаваньне права, культуры і мовы беларусаў, ці там ня будзе мець сілы канстытуцыя? **На гэты замах я і народ беларускі адкажам паном: рукі вон!**

Такім-жа чынам **пагвалчаны правы літоўскага насяленьня** ў паветах: лідзкім, браслаўскім, ашмянскім, горадзенскім і сувальска-сэйненскім.

Няма сумліву, што па памянёных абшарах беларусы і літвіны маюць быць пазбаўлены ўсіх языковых правоў. А што-ж мае быць на абшарах другіх беларускіх паветаў? Гэта-ж вы, панове, нават у афіцыяльным абасnаваньні ўставу гаворацe, што быццам даецё больш, чым таго вымагае канстытуцыя і трактаты.

Я пазволю сабе прачытаць адносныя тэксты, бо паны чытаць іх ня любіце!

Вось-жа, канстытуцыя ў арт. 96 кажа прынцыпова: „усе грамадзяне роўныя перад законам“.

Арт. 109 гавора: „Кожын грамадзянін мае права на захаваньне сваей нацыянальнасьці і на разьвіцьцё сваей мовы і нацыянальных адзнак. Асобныя дзяржаўныя ўставы забясьпечаць меншасьцям у Польскай Дзяржаве поўнае і свабоднае разьвіцьцё іх нацыянальных уласьцівасьцей“— і далей, што йшчэ цікавей: „**пры помачы аўтаномных сувязей меншасьцяў публічна-праўнага характару** ў межах саюзаў агульнага самаўраду. Дзяржава ў адносінах да іх дзейнасьці будзе мець права кантролю і **папаўненьня**—у прыпадку патрэбы — **іх фінансавых засобаў**“.

Далей возьмем арт. 7 Трактату аб меншасьцях. У ім забясьпечываецца права меншасьцяў на ўжываньне сваей мовы ў судох — у гутарцы і на пісьме.

Цікавей арт. 9 таго-ж Трактату аб меншасьцях: „У мястох і акругох, заселеных значнай лічбай грамадзян іншае, чым польская, мовы, Польскі Урад робіць у справах публічнага навучаньня адпаведныя палягчэньні, каб запэўніць дзецям такіх польскіх грамадзян у пачаткавых школах навуку **ў іх уласнай мове**“.

Пане прафэсар Грабскі! „У іх уласнай мове“! А што да польскага языка, дык гэты абзац таксама зусім ня двузначны, бо кажа: „Гэтая пастанова не перашкаджае Польскаму Ураду зрабіць у гэтых школах навуку польскае мовы абавязковай“. А што творыцца ў двуязычнай школе?!

Не кажу ўжо аб арт. 7 Рыжскага Трактату, бо лішне добра вядомы і папулярны. Але паглядзімо цяпер, у якіх адносінах знаходзяцца прапанаваныя языковыя ўставы да канстытуцыі і трактатаў. Калі паны кажаце, што яны даюць больш, чым трактаты і канстытуцыя, дык я заяўляю, што вы маеце лішне вялікую, але мала пахвальную адвагу, бо **гэтыя ўставы зьяўляюцца гвалтам і запярэчаньнем аснаўных законаў Рэчыпаспалітай і трактатаў**, ня кажучы ўжо аб тым, што прадстаўляюць насьмешку над здаровым розумам.

Вось самы нявінны ўстаў—аб языковых палягчэньнях у судзе. Бяру, да прыкладу, § 3: — Старана, якая падае жалабу ў няпольскай мове, павінна перакласьці яе на польскую мову, калі праціўная старана будзе таго жадаць; судовае паступаньне ў такім прыпадку пачынаецца ад падачы польскага перакладу.—І гэта мае быць палягчэньне?! Каб карыстацца „дабрадзействамі“ гэтага ўставу, трэба хіба быць нейкім патрыятычным маніякам, а не нармальным чалавекам!—

Возьмем цяпер другі ўстаў—аб мове ў адміністрацыі. Трэба прызнацца, што на першы пагляд гэты ўстаў як-быццам запраўды дае некаторыя языковыя палёгкі няпольскаму насяленьню, але на дзеле — пры сучасных адміністрацыйных адносінах на гэтых землях—усе гэтыя палягчэньні робяцца толькі шкоднай ілюзіяй. Калі ўстаў дазваляе зварачацца да ўрадаў ніжэйшае інстанцыі пабеларуску, дык пры найчарнейшым бюракратычным тэроры, пры „панскіх“, а калі хто хоча — пры хамскіх адносінах урадоўцаў да насяленьня, пры яўным і адкрытым вядзеньні ўрадоўцамі палітыкі самага заядлага шавінізму і імсьцівасьці,—трэба людзей з вялікай самаахвярнасьцяй і ідэйнасьцяй, каб адважыліся дамагацца адказу ў украінскай ці беларускай мове. Цяпер ужываецца беларуская кляцьба: „каб ты па ўрадах цягаўся!“ Аб тым, што вычвараецца на гэтым польскім Сахаліне, (—крыкі)—а так назваў беларускія „Крэсы“ іменна ваш эндэцкі „Dziennik Wileński“,—чытайце ў гэтай вось вашай газеце!

Аб межах ужываньня языка ў адміністрацыі ў вялікай меры маюць вырашаць сама ўрады. Гэта вельмі пекна, але, на жаль, ізноў толькі ў абстракцыі, бо па сягоньня мы зусім ня маем ніякіх правільных, выбраных згодна з канстытуцыяй, самаўрадаў. Трэба аб гэтым памятаць і ведаць, і я думаю, што паны гэта знамяніта ведаеце.... „Самаўрад“ аснованы на тым, што староста... **сам гаспадарыць!** Вось вам і „самаўрад“! А далей—пададзеныя законапраекты аб „самаўрадах“, з аднаго боку, годныя зьлітаваньня, а з другога — заслугуюць на найвялікшае абурэньне, бо іменна ў гэтых уставах самым цынічным спосабам гвалціцца канстытуцыя, бо **адзін паляк мае гэтулькі галасоў, як пяць беларусаў**. Гэта-ж скандал! І на гэтых самаўрадах вы маніцёся абаперці далейшае дзяржаўнае будаўніцтва, далей тварыць уставы? **Хто-ж будзе** ў такім прыпадку **ўпраўляць?** Ці мясцовае насяленьне? Не,—ізноў **староста, асаднік, шпік і правакатар.** Замест самаўраду—ёсьць і будзе істнаваць шляхоцка-асадніцкае староста-дзяржавіе і чыноўніцкі тэрор.

Урэшце, трэці ўстаў. Два папярэднія законапраекты—гэта нявінная забаўка, раўнуючы да гэтага школьнага ўставу. Толькі яна паказуе меру палянізатарскага імпэту ейных аўтараў, а разам і меру глыбіні іх дэмакратычных прынцыпаў. Скажу пабеларуску: было ліха, дый пагоршала; было блага, будзе горай. Ня буду развадзіцца аб тым, як за кароткі час польскі ўрад зачыніў 400 беларускіх школ. Зачыненьне школ было выклікана кірункам агульнае палітыкі ўраду, а передусім самастойнай палітыкай розных школьных інспэктароў. Гэта—прывезеныя з далёкае Галіччыны адміністрацыйныя шулеры, якія з спрытнасьцяй і крывадушнасьцяй, годнымі лепшае справы, спынялі і спыняюць усялякія высілкі беларускага народу ў кірунку здабыцьця ўласнае школы. Цэлымі сотнямі ляжаць у іх пад сукном і ў карзінах просьбы аб адкрыцьці беларускіх школ. Было і ёсьць блага, але можна было спадзявацца, што пераменіцца ўрад, пераменяцца людзі і пераменіцца палажэньне. Цяпер п. Станіслаў Грабскі, — бо-ж яму ў першы чарод трэба прыпісаць чэсьць аўтарства гэтага ўставу!.—гэты патэнтаваны эндэцкі спэцыяліст ад парцэляваньня і палянізаваньня украінцаў і беларусаў, цяпер пазбаўляе нас апошняе надзеі і пры помачы закону творыць апошнюю перашкоду разьвіцьцю беларускіх і украінскіх школ. Школы беларускія будуць выняткам, затое скрозь будуць школы польскія, ці ў лепшым прыпадку—польска-беларускія, так-званыя двуязычныя. Устаў у сваіх аснаўных пастановах, насупраць гарантыям канстытуцыі і трактатам, стаўляе польскі элемэнт у прывілейнае палажэньне, крывадушна прыкрываючы гэта няяснай фармуліроўкай уставу.

Вось пробкі „дэмакратызму“ і „справядлівасьці“. Калі ў абводзе школы будзе 39 няпольскіх дзяцей, дык школа мае быць польская, хаця-бы ня было ніводнага польскага дзіцяці! Калі-ж у абводзе ёсьць 25 польскіх дзяцей, дык шкока будзе двуязычная, хаця-бы ня польскіх дзяцей было 100, 200, 500, 1000—без агранічэньня лічбы! Даволі 25 польскіх дзяцей, каб беларускае школы ня было... Можаце, паны, сабе прадставіць, якая гэта будзе дасьціпная „выкрэсьльная геамэтрыя“ школьных акругоў, каторую спрытныя інспэктары будуць бязсумліўна пускаць у ход. Паны міністры зара з'арганізуюць дзеля гэтага адумысныя інструктарскія курсы, і пачэснае кіраўніцтва гэтымі курсамі трэ' было-б аддаць п. Станіславу Грабскаму...

Што-ж прадстўляе двуязычная школа сама па сябе? Гэта школа ў двух пастацях, утраквістычная: ультра-гумарыстычная і ультра-драматычная. (Вясёласьць, воплескі на беларускіх і украінскіх лавах). Гэта — школа, у якой навука абернецца ў жарт, а ў уражлівай дзіцячай душы будзе пасеяна жыцьцёвая драма. У гэтай школе беларускае дзіця будзе бачыць паняверку ўсяго, што яму дарага, беспасярэдня блізкае, стыхійнае: сваей мовы, звычаяў, акружаючых. Калі можна ўсяляк судзіць аб вартасьці двуязычных школ у Швайцарыі і Бэльгіі, калі там яны могуць нам здавацца свайго роду пэдагагічным дзіватворам, дык у нашых абставінах гэта будзе ўжо не дзіватвор, а пэдагагічнае страшэнства. Дый ня трэба адгадываць, што будзе, бо і сягоньня мы маем польска-беларускія школы. Беларускаму дзіцяці, якое ня мае паняцьця аб польшчыне, даюць у рукі польскі лемантар. Навучаньне адбываецца ў польскай мове, а беларускія гадзіны — гэта гімнастыка, рысаваньне, рухомыя гульні і г. п. Дзеля паважных двуязычных спроб патрэбны ідэальныя настаўнікі, ідэальныя адміністратары і спакойнае сужыцьце грамадзянстваў. Усяго гэтага ў сучасных абставінах няма нават у найменшай меры, і дзеля гэтага сужыцьце ў польска-беларускай школе падобна да дружбы воўка ў авечай скуры з ягняткам, зьяўляецца папросту ганебнай правакацыяй. (**П. Корфанты**: Гэтае ягнятка — хто гэта?). А гэны воўк у авечай скуры — то пан!

Такі характар нашых дасюляшніх адносінаў— зусім выразны, і няма сумліву, што гэты ўстаў пойдзе ў кірунку мэтаў, якія п. Станіслаў Грабскі стаўляе ў сваім творы пад загалоўкам: „Uwagi z chwili bieżącej“. І на тым вялікшае абурэньні і асуджэньне панове заслугуеце, калі ў артыкуле 2 школьнага ўставу крывадушна прыкрываецеся высокім прынцыпам „згоднага сужыцьця насяленьня мешаных зямель“. Гэта вы будзеце ўзгадоўваць дзяцей польскай і беларускай нацыянальнасьці ў узаемнай пашане іх нацыянальных уласьцівасьцей?! Ад якога гэта часу гвалты, прымус і законнае таптаньне прынцыпу роўнасьці вядзе да ўзаемнае пашаны і згоднага сужыцьця?— Непапраўныя рамантыкі! Гэтую атруту для нашых дзетак беларускіх вы не забыліся прыхарошыць аздобамі рамантычнае крывадушнасьці!..

Вы пазываецеся на традыцыі сваей культуры на нашых землях і на сваю цывілізацыйную місію. Вельмі гэта пекна, але ваша шляхоцкая традыцыя для нас зьяўляецца традыцыяй вызыску, гвалту і крывавае працы. Іменна на гэтай крывавай працы нашых дзядоў і прадзедаў вырасла ваша традыцыя і вырасла ваша вялікая літэратура,— літэратура, якая ў часох няволі была пажывай для душ вашых. Але папытайцеся також панове, што ваша вялікая літэратура і ваша вялікая культура дала **нам**? Надта ня шмат, бо што-ж? Шляхціцу ніколі ня йшло, здаецца, аб нейкую цывілізацыйную місію. Ён сабе вялікай місіі ня браў, ён вышэй за місію стаўляў поўную міску, дый меў шляхціц гэтую поўную міску з нашае працы і з нашых неаб'ятных бароў і лясоў. Але што польскі шляхціц, прыблуда, ці спольшчаны тутэйшы, меў у працягу некалькіх вякоў поўную міску з працы беларускага ці ўкраінскага мужыка, дык з гэтага, мае паны, для Польшчы йшчэ зусім не вынікае нейкі тытул уласнасьці ані на нашу зямлю, ані на нашыя душы,—запамятайце гэтае! Усе вашы наскокі на нас кшталтам сягоньняшніх языковых законапраектаў **мы з абурэньнем адкідаем!**

Беларускі народ збудзіўся з векавога сну, да ўсяго пільна і крытычна прыглядаецца і ведае, чаго хоча! Хто мае вушы, каб слышаць, — няхай прынікне да зямлі—і пачуе голас працуючага на ёй народу. „Ніякімі круцельскімі ўставамі вы мяне не абдурыце!“—кажа ён: „я верыў у канстытуцыю, але гвалты і зьдзекі выбілі мне яе з галавы. І цяпер, — кажа — ведаю, што рабіць: **выкінуць вон усю барбарскую паліцыю, адміністрацыю, ды разам з імі асаднікаў і абшарнікаў,—і стварыць свой уласны работніцка-сялянскі ўрад, уласную адміністрацыю, школы і войска, адбудаваць непадзельную і незалежную Беларусь**, (воплескі на беларускіх лавах; вялікі шум), **у якой самі сяляне будуць гаспадарамі сваей зямлі!**“

Так кажа народ, і не ашуківайце сябе, паны, быццам усходнія граніцы, якія мае сяньня Польшча, стаяць на лішне цьвёрдым грунце,—бо што-ж такое ўсходнія граніцы Польшчы? Усходнія граніцы Польшчы—гэта **прыпадак**: для адных ён прыкры, а для другіх—клапатлівы, але заўсёды і аб'ектыўна — гэта прыпадак і больш нічога! Бо-ж, гляньце, паны!—увесь сьвет перастраіваецца паводле нацыянальных граніц. Ня кажучы ўжо аб дзяржавах, якія стварыліся з прычыны вялікае вайны і Вэрсальскага Трактату, — вось Ірляндыя, Эгіпет здабываюць незалежнасьць, Індыя, Шотляндыя йдуць у тым-жа кірунку. Наагул, на ўсенькім сьвеце нацыянальныя рухі імкнуцца да стварэньня ўласнае дзяржаўнасьці. Не кажу ўжо аб Украіне і Радавай Беларусі, дзе даволі шырока закроеныя дзяржаўныя схэмы памалу, але няўстанна запаўняюцца сацыяльна-нацыянальным зьместам. Паміма таго нават напалавіну дзікія пляменьні цантральнае Расеі атрымліваюць ад радавае ўлады пачатныя падставы асобнае дзяржаўнасьці. Польшча, хоч ня хоч, мусіць прыняць учасьце ў гэтым агульным паходзе, —і няма выхаду, няма іншае дарогі.

Высокі Сойме! Калі-ж нашыя — беларускія і ўкраінскія—імкненьні да ўласнае дзяржаўнасьці вы прыймаеце з абурэньнем, дык дарма толькі псуецё сабе гэтым нэрвы, бо нішто ня можа запыніць гэтыя імкненьні! Паліцэйскія спосабы нічога вам не памогуць; чым балей будзеце пісаць уставаў, падобных да сягоньняшняга, чым балей будзеце нас уціскаць і перасьледаваць. **тым больш выразным і яркім будзе нашае імкненьне да поўнае непадзельнасьці і незалежнасьці!** (воплескі на беларускіх лавах; шум на правіцы).

## ІНТЕРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да пана Міністра Ўнутраных Спраў — у справе **звальненьня з вастрогу** Адама Чывеля.

У мес. лістападзе мінулага году пастановай Нясьвіскага старосты быў засуджаны на 12 месяцаў у вастрог Адам Чывель, селянін з вёскі Салоўе, Сіняўскае гміны, Нясьвіскага пав., за „хаваньне“ вінтоўкі. Згодна з яго заявай, абвінавачаны аб істнаваньні вінтоўкі гэнае зусім ня ведаў, і дзеля гэтага ня можа быць ніякае гутаркі аб хаваньні аружжа. Толькі пасьля выкрыцьця вінтоўкі паліцыяй удалося выясьніць, што брат ягоны, Міхал, які тады і цяпер знаходзіцца ў польскім войску, у 1922 годзе адабраў гэту вінтоўку ў дзяцей: Пётры Курко—12 гадоў, Яна Курко—10 гадоў і ў іншых, якія забаўляліся вінтоўкай, нікому дома ня кажучы.

Ня гледзячы на тое, што Адам Чывель зусім ня ведаў аб істнаваньні вінтоўкі, а значыць ня можа быць вінен у пераховываньні аружжа,—нясьвіскі староста асудзіў селяніна на 12 месяцаў у вастрог.

Дзеля вышэйшага ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў п. Міністра: Ці маніцца ўраз-жа звольніць з вастрогу Адама Чывеля, які зусім бяз віны сядзіць ужо 7 месяцаў?

Варшава, 1 чэрвеня 1924 г.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да п. Міністра Справядлівасьці **у справе заарыштаваных** Канстантына Чычко, Максіма Кныша, Жука і іншых, якія знаходзяцца ў вастрозе ў Нясьвіжы.

24 мая г. г. нясьвіская паліцыя заарыштавала Канстантына Чычко, Максіма Кныша, Жука і інш. з Ланьскае і Клецкае гміны.

У часе сьледзтва арыштаваным закідалі: 1) што яны маніліся адарваць Беларускія землі ад Польшчы, 2) што дзеля гэтае мэты арганізавалі адпаведныя баёўкі і 3) што ўжо ўчынілі напад на двор Касмовічы, Ланьскае гміны. Заявы вінавачаных, якія адначасна пазываюцца на сьведкаў, што ў тым часе, як адбываўся напад на двор Касмовічы, былі ў хаце,—ня прыймаюцца зусім пад увагу. Паліцыя, дапрашываючы К. Чычко, аргумэнтавала сваё абвіненьне гэтак: „Калі ты беларус, дык ведаеш усё; гэтыя справы — ў інтарэсах усіх беларусаў, а ты-ж быў беларускім вучыцелем і кажаш, што зусім аб гэтым нічога ня ведаеш“. Далей закідаюць яму, быццам хадзіў за граніцу, але не падаюць даты. Калі пры такім сьледзтве ня выкрылі нічога, 16 чэрвеня г. г. сам камісар сказаў: „Ty mnie wszystko powiesz, tylko niema miejsca, dam ci kulą w łeb i zmuszę przed tem w sposób inny do przyznania się do winy“.

Вышэйшае паказуе, што заарыштавалі людзей бяз ніякіх падставаў і дадзеных; сьледзтва ў паліцыі вялі ў працягу некалькіх тыдняў, што нязгодна з канстытуцыйным ладам у Дзяржаве.

Дзеля гэтага ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў паноў Міністраў: 1) Ці маняцца ўраз-жа правясьці сьледзтва ў справе заарыштаваных у Нясьвіскім павеце? 2) Ці маняцца павучыць паліцыю, што ўсе арыштаваныя цераз 24 гадзіны павінны быць або звольнены, або аддадзены судовай уладзе? 3) Ці маняцца пакараць камэнданта паліцыі за колькітыднёвае вядзеньне сьледзтва ў справе заарыштаваных у Нясьвіскім павеце?

Варшава, 3 ліпня 1924 г.

# З Сойму.

### Бюджэт міністэрства скарбу.

Дакладчык п. **Лыпацэвіч** (лявіца людоўцаў) дае зьніштажаючую крытыку падаткавай сыстэмы і эканамічнай гаспадаркі самога п. Грабскага.

Увесь скарбовы апарат дрэнна арганізаваны і зложаны, дзякуючы перадусім нявырабленаму і нягоднаму служэбнаму пэрсаналу. Урадоўцы скарбу ня маюць інструкцыяў, атрымліваюць малыя пэнсіі. Усюды пануюць бюракратызм і папяровае ўрадаваньне аўстрыйскай школы. Галоўныя вады: няма нагляду і кантролю, няма адказнасьці урадоўцаў, кіраўнічыя становішчы займаюць прыпадковыя людзі.

Падаткі робяцца папросту кантрыбуцыяй, якую спаганяюць прадажай маемасьці. Няроўнамернасьць падаткаў часам мае выразную тэндэнцыю, скіраваную проці пэўных слаёў грамадзянства (жыдоў).

Зямельны падатак мае няправільны разьмер. Падатак прамысловы — не апрацаваны. Падатак падаходны недапасаваны да нашых варункаў. Дзеля гэтага для дробнага зямляроба ён стаўся дадаткам да падатку зямельнага. Падатак ад спадчыны, калі-б яго сумленна плаціць, зруйнаваў-бы дробнага прамыслоўца і дробнага зямляроба.

У галіне гэрбавога збору („стэмплёвы“ падатак) пануе хаос.

Падатак „маёнтковы“ ня можа быць рэалізаваны нават праз ліцытацыю, бо ніхто ня купляе зямлі за гатоўку, якое няма.

Акцыз на цукер невялікі, але цукер быў-бы на траціну таньней, калі-б урад не зрабіў залішне карыснае для цукровараў умовы — коштам іх спажыўцоў. Тое самае — з падаткам ад каменнага вугальля і солі.

Пэнсіі адстаўным вышэйшым урадоўцам — лішне вялікія. Напрыклад, б. дырэктар Дзяржаўнага Банку П.К.К.П., адданы пад суд за сваю дзеяльнасьць, атрымлівае ў два разы больш, як сам старшыня міністраў Грабскі! Усе свае канцэсіі скарб аддаў спэкулянтам.

У канцы дакладчык кажа, што добрым міністрам скарбу можа быць толькі добры гаспадар, але ня той, хто „нажом выразае вымя ў кароў, якія даюць малако“ (значыць — ня міністар Грабскі).

### Дыскусія.

Жыд **Розмарын** кажа, што мін. Грабскі не прадбачыў гаспадарчага крызісу. У выніку агульная прамысловая прадукцыя краю панізілася на 30 — 50 проц. Ад пачатку году вываз зьменшыўся больш, як напалову (на 60 проц.). Гандаль спыніўся. У Львове 1.600 купцоў вярнула ў скарб свое патэнты. Ня лепш і ў рамесьніцтве і зямляробстве.

У краю ніхто даўгоў ня плаціць, бо няма гатоўкі. Увесь бюджэт аблічаны ў 1.600.000.000 зл., а ўсіх грошы ў абароце толькі — 400.000.000...

Наагул, ёсьць небясьпека, што бюджэт не апраўдаецца на дзеле. Пазыкі заграніцай ня будзе, пакуль урад будзе дзяліць грамадзян на 2 сорты нават у падатковых цяжарах.

Пястовец **Бырка** так сама крытыкуе міністэрства і ад імя „Пяста“ пагражае ўраду Грабскага, што партыя гэтая пераменіць адносіны свае да яго.

„Народовы работнік“ **Хондзыньскі** закідае дакладчыку, што ён некарэктна, бо проці апініі большасьці камісіі, вядзе агітацыю за павялічэньне пасярэдніх падаткаў (акцызаў), якія кладуцца цяжарам на бедныя клясы, і — за зьменшаньне беспасярэдніх, якія павінны плаціць багатыя.

П. **Точэк** (саюз польскіх сялян) скардзіцца, што ў часе санацыі селянін панёс найвялікшыя страты. Для сялянства ўрад ня робіць нічога.

П. **Смола** (лявіца людоўцаў) кажа, што з голых сялян падаткі дзяруць з аружжам у руках, а вось міністар-гультай граф Замойскі, які мае зямлі са два паветы, вырабіў сабе ў Грабскага адсрочку на „маёнтковы“ падатак...

Украінец **Казіцкі кажа**, што за спаганяныя з сялян гвалтам падаткі і даніны не даюць ані школ, ані зямлі, ані крэдыту, ані адбудовы краю.

Трэба, каб сваімі падаткамі ўкраінскі народ мог распараджацца сам.

Быўшы мін. скарбу і добры фаховец **Міхальскі** востра і забойча крытыкуе сучаснага свайго канкурэнта. Ці бюджэт рэальны? Трудна верыць. За 5 месяцаў даходаў было на 115 мільёнаў злотых менш, як прадбачана ў бюджэце. Ці будзе лепш? Не, — будзе горш, бо падатнік згалеў. Няма гаспадарчага пляну... Няма неабходнай заграчнічнай пазыкі.

**Пончэк** (П. П. С.) кажа, што тым „падаткам“, якім быў спадак курсу маркі, ухо зусім зруйнавалі працоўнае насяленьне—на карысьць скарбу і багатых прамыслоўцаў і абшарнікаў. Цяпер гэты-ж згалеўшы працоўны народ дабіваюць новымі падаткамі, данінамі і акцызамі.

Галасаваньнем бюджэт мін. скарбу прыняты з папраўкай пэпэсаўца Пончка, якая трохі павінна паменшыць цану цукру.

# Водгукі Польска-Беларускага Т-ва.

Мы ў сваім часе друкавалі пісьмо гр. Астроўскага, напісанае ад імя ўсіх беларусаў, якія гатовы былі зрабіць спробу супрацоўніцтва з польскім грамадзянствам на грунце аздараўленьня ненармальных нацыянальных адносінаў у Заходняй Беларусі, і дзеля гэтага сьпярша згадзіліся ўвайсьці ў склад Польска-Беларускага Т-ва. Аднак, убачыўшы, што польская палітыка надужыла самога факту стварэньня Таварыства, тлумачучы гэты факт перад Эўропай, як знак „брацкіх“ адносін між палякамі і беларусамі і „поўнага здаваленьня“ апошніх сваім палажэньнем (рай, дый толькі!), а да таго-ж пераканаўшыся ў бязмэтнасьці супрацоўніцтва з тэй польскай групай, якая ніякага ўплыву, ніякае вагі ў Польшчы ня мае, — усе нашыя „міралюбцы“ выступілі з Таварыства, аб чым і пісаў грам. Астроўскі ў пісьме сваім на імя польскага дзеяча грам. Абрамовіча.

Пісьмо грам. Астроўскага было напісана 29 траўня г. г. І толькі цяпер—больш, як цераз месяц,—у газэце „Słowo“ зьявіўся адказ грам. Абрамовіча на пісьмо грам. Астроўскага.

Грам. Абрамовіч адзначае, што, як ён сам, так і яго палітычныя прыяцелі, прызнаюць сучаснае палажэньне беларусаў пад Польшчай нязгодным з паглядамі і імкненьнямі палякоў — удзельнікаў Польска-Беларускага Т-ва; прызнаюць таксама слушнасьць горычы, якая выклікаецца гэтым палажэньнем у беларусаў; але думаюць, што іменна дзеля гэтага Польска-Беларускае Т-ва павінна істнаваць і разьвіць шырокую працу.

Аднак, ня гэта прадстаўляе галоўную часьць пісьма грам. Абрамовіча: яму йдзе аб нешта другое. А іменна: ён рашуча выступае проці таго, каб беларусы „агляддаліся на сілы замежныя — ці то на Захадзе, ці на Ўсходзе“.

„Калі-б Вы, Панове, жадалі перамены варункаў дзякуючы ўплывам ці інтэрвэнцыі вонкавае сілы, дык запраўды паміж нашымі і Вашымі паглядамі істнавала-бы прынцыповая розьніца, утрудняючая, а мо' й робячая немагчымым паразуменьне і супрацоўніцтва“.

Гэтыя словы прадстаўніка „прыхільнае“ да беларусаў часткі польскага грамадзянства мы павінны добра запамятаць. Грам. Абрамовіч забываецца, што **іменна вонкавая сіла** „падаравала“ Заходнюю Беларусь Польшчы: тры заходнія паветы—Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі—„падараваў“ ліхое памяці цар Мікалай Апошні, а зацьвердзіла Міравая Канфэрэнцыя; рэшту таксама „падаравала“ ўзятая палякамі за горла Р.С.Ф.С.Р. паводле міравое ўмовы ў Рызе, ды гэты „падарунак“ ізноў-жа зацьвердзіла Рада Амбасадораў дзяржаў Антанты. Забываецца, што пры гэтым Польшча **абязалася** шанаваць нашыя правы, і што толькі гэтая вонкавая сіла **можа** яе **прымусіць** сумленна выпаўніць свае забавязаньні... І вось цяпер „найлепшыя“ з палякоў забараняюць нам нават **жадаць**, каб нашае палажэньне пад Польшчай палепшала пад уплывам **тэй-жа вонкавай сілы!** І гэта пасьля таго, як сталася ўсім вядомым, што нават да свае́й папяровай „санацыі“ палажэньня беларусаў (папяровай, бо ўвесь проці-беларускі дзяржаўны апарат астаецца без перамены!) п. Грабскі прыступіў на жаданьне п. Замойскага, б. пасла ў Парыжу і цяперашняга міністра заграчнічных спраў, які — гата-ж хіба ясна і для грам. Абрамовіча і яго палітычных прыяцеляў!—націскаў на п. Грабскага **толькі пад уплывам вонкавае сілы!**

Сэнс пісьма грам. Абрамовіча зводзіцца, коратка, вось да чаго: прызнайце сябе, беларусы, **уласнасьцяй Польшчы**, не пажадайце нават у думках сваіх заступніцтва культурнага сьвету, а тады польскі народ мо' Вам і дасьць нешта **з ласкі свае́й!**

Дзякуючы пісьму грам. Абрамовіча сталася зусім ясным, дзеля чаго „найлепшыя“ з палякоў так клапаціліся аб стварэньне Польска-Беларускага Т-ва... Але хіба ня знойдзецца сярод **ідэйных** беларусаў ніводнага, хто згодзіўся-бы іграць гэткую недастойную ролю і жабраваць „ласку“ ў „гаспадароў палажэньня“. Дзеля гэтай ролі палякі маюць „сваіх“ беларусаў, якіх проста **купляюць** за грошы.

Беларускі народ нічога **ня просіць у** Польшчы, а **трэбуе** таго, што яму **па праву належыцца.** І зусім натуральна, што беларускае грамадзянства ня можа знайсьці супольнага языка з тымі, хто гаворыць не аб нашым **праве на поўнае самавызначэньне**, а аб **ласцы** нашых „валадароў“.

# Палітычныя падзеі.

### Новы замах на парахоўню ў Модліне.

У ноч на 11 ліпня на парахоўню ў Модліне ў часе накладаньня пораху ў скрыні напала група ўзброеных людзей, якія асыпалі стрэламі з рэвальвэраў варту і ранілі аднаго вывядоўца. Дзякуючы цямноце, усе ўцяклі.

### Да замаху на львоўскія ваенныя склады.

Вялікую сэнсацыю выклікала арыштаваньне ў зьвязку з замахам старшага „пшодоўніка“ львоўскай паліцыі, Рушнікажа.

### Адстаўка графа Замойскага?

Варшаўскія газэты падаюць, што пасьля прыняцьця Соймам закону аб паўнамоцтвах для ўраду Грабскага мін. загран. спраў Замойскі падасцца ў адстаўку. На яго месца намячаюць быўшага мін. загран. спраў у габінэце Сікорскага — Скшыньскага.

### Уступка радавага ўраду Англіі.

Газэты падаюць, быццам галава радавай дэлегацыі ў Лёндоне заявіў на канфэрэнцыі, што яго ўрад згаджаецца прызнаць Англіі 25 працэнтаў расейскіх даваенных даўгоў.

### Ваенныя склады камуністаў у Бэрліне.

Масавыя обыскі ў Бэрліне выкрылі падгатоўку да камуністычнага перавароту. Знойдзены 44 ваенныя склады. „Пралетарскія сотні“ рыхтаваліся да бою. Баёўкі падгатаўлялі забойства раду выдатнейшых дзеячоў сучаснага ўраду.

### Прамова Эрыо.

У часе пабыту Мак-Дональда ў Парыжу, Эрыо ў сваей прамове сказаў, што будзе з усіх сілаў бараніць Лігу Народаў, каб стварыць з яе магутны міжнародны орган. Першая задача эўрапэйскай палітыкі — гэта аслабляць створаны ў часе вайны шкодны нацыяналізм і — аканчальна замацаваць новыя, няпэўныя яшчэ, граніцы і штучныя разьмяжаваньні... Іначай—вайна і то ў хуткім часе—няўхільна. „Мы з Мак-Дональдам — казаў ён, — паедзем у Жэневу, каб там залажыць моцныя падставы сусьветнага міру!“

Усё гэта—добра. Але вайна няўхільна якраз з прычыны нарэзаных у Вэрсалю „штучных граніцаў“! Дык ясна, што „моцныя падставы міру“ дасьць толькі стварэньне новых, але ўжо ня штучных, а „натуральных“ граніц, абапертых на волі жывых народаў, — а не абарона нягодных трактатаў.

### Становішча Францыі.

У зьвязку з англа-францускім канфліктам, Эрыо заявіў журналістам, што ні ў якім выпадку не дапусьціць ніякіх зьменаў у Вэрсальскім Трактаце. Абшар Руры ня будзе эвакуаваны, пакуль Францыя не атрымае заставаў, прадугледжаных плянам экспэртаў.

У канцы Эрыо „выразіў надзею, што ён будзе мець магчымасьць весьці адносна да Англіі палітыку паразуменьня“.

### Чэска-італьянскі дагавор.

Апублікаваны тэкст чэска-італьянскага дагавору, падпісанага 5 ліпня. Абедзьдзьве староны на працяг пяці гадоў абязываюцца падтрымліваць адна адну ў прыпадку небясьпекі і абараняць істнуючы стан рэчаў, асновааны на міжнародных трактатах. Паводле Статуту Лігі Народаў, дагавор будзе прадстаўлены ей на зацьверджаньне.

### Грэцыя хоча далучыцца да Малай Антанты.

Міністар заграчнічных спраў маніцца аб'ехаць сталіцы Чэхаславакіі, Югаславіі і Румыніі, каб падгатаваць грунт для далучэньня Грэцыі да Малай Антанты.

### Шуканьне трупа Маттэотті.

Калі нядаўна было ўжо афіцыяльна абвешчана, што шуканьне трупа забітага Маттэоті спыняецца, дык гэта выклікала такое абурэньне ўва ўсей Італіі, што ўрад павінен быў публічна абяцаць прадаўжаць шуканьне.

Партыя сацыялістаў пасуліла 25.000 ліраў за адшуканьне трупа, даводзячы, што яго наўмысна хаваюць фашысты, якія баяцца, што хаўтуры забітага абернуцца ў вялізарную проціфашыстаўскую дэманстрацыю на ўсяму краю.

### Новыя забойствы Думіні.

Выкрыты ў часе сьледзтва новыя забойствы даверанага Мусоліні, шэфа фашыстаўскіх бандытаў, Думіні. Думіні, як высьветлена, забіваў ворагаў фашызму, уцёкшых за граніцу. Сцьверджаны забойствы яго ў Рыме, Болёніі, Міляне, Флёрэнцыі, Фадшы, Катанцэры і Парыжу.

### Японія павялічвае збраеньні.

Японскі ўрад падаў у парлямант праект будовы яшчэ 11 паветраных эскадр, апрача 17, якія ўжо прыняты парлямантам. Вось, што значыць Вашынгтонская канфэрэнцыя аб сусьветным разбраеньні...

## Румынскія клапоты.

Як кепска набраць сабе, карыстаючыся „мутным часам", зашмат чужога, ня горш за Польшчу адчувае на сабе Румынія. Як ведама, справа Бэсарабіі, як толькі яе больш станоўча кранулі з месца бальшавікі, адразу забіла на сьмерць Малую Антанту, у склад якое ўваходзіць Румынія, Чэхаславакія і Югаславія. Румынія ўсё больш, як і Польшча, астаецца „ў бліскучым адзіноцтве".

Нядоўга цешылася Румынія і тым, што Францыя і і Англія „прызналі" яе захват Бэсарабіі. Бо Мак-Дональд ужо заявіў, што бяз згоды Японіі і Італіі іх прызнаньне ня мае праўнае сілы — паводле Вэрсальскага Трактату. А Францыі прыдзецца так, ці інакш, адказываць за гэтае „прызнаньне" на расейска-францускай конфэрэнцыі. І ня можа быць сумліву ў тым, што і п. Эрыо, як яго англійскі калега, знойдзе юрыдычную форму, якая-б фактычна анулявала гэтае „прызнаньне".

З усіх гэтых прычын у Румыніі пануе вялікі неспакой. Апазыцыя вельмі востра нападае на ўрад п. Братіану, а нядаўна парлямант, перапужаны вядомым выбухам складаў амуніцыі, рэзка выразіў апошняму недаверые.

І ў імпэрыялістычнай (не па кішэні!) Румыніі пачынаюць разумець усю трагічнасьць здуру распачатай гульні ў „вялікае мацарства"... А пасол Люпу нядаўна вельмі выразна сцьвярдзіў, што перад „мільёнам добрага войска", які мае СССР, румынская армія, ня гледзючы на ўсе свое саюзы і антанты, акажацца зусім адзінокай!

## З газэт.

### Аб'ядналіся!

Урэшце польская правіца і лявіца—аб'ядналіся. Забыты старыя сваркі і барацьба на сацыяльным грунце, бо пан Уладыслаў Грабскі кінуў ім косьць і сказаў: „Ешце разам — інародцаў!"

І пачалі разам „есьці" беларусаў і украінцаў, ды на гэтай супольнай рабоце — пагадзіліся!

Так, прынамся, кажа на страніцах „Gaz. Warsz." лідэр эндэкаў, п. Станіслаў Грабскі, які разам з нядаўным ворагам, п. Тугуттам, фабрыкаваў урадовыя праекты аб ужываньні беларускай і украінскай мовы.

> „Асаблівае значэньне мае факт згоднага прыняцьця іх (законапраектаў) **усемі** польскімі партыямі (— ведама, апрача камуністаў)".
>
> „Спрэчка між партыямі аб польскую палітыку на „Крэсах", пераходзіўшая нараз у вострую барацьбу, — канчаецца".

На чым-жа зьйшліся ўсе польскія партыі ў нацыянальнай справе? Пан Ст. Грабскі адказывае:

> „Асновай усяе нашае крэсавае палітыкі ёсьць **адналіты польскі характар Рэчыпаспалітай**".

Бо-ж

> „у сваіх межах Польшча ня можа прызнаваць ніякіх нацыянальных сэпаратызмаў, бо яны самі сабой ператвараюцца ў імкненьне нарушыць яе граніцы".

Так. Цяпер ужо ня прыходзіцца дзяліць польскія партыі на правіцу і лявіцу: усе — „дсбрыя"!

## ХРОНІКА.

**Справы праваслаўнае царквы ў Польшчы.** Угадовая палітыка вышэйшых праваслаўных іерархаў, якія пакорна згаджаюцца на ўсе загады і вымаганьні польскага ўраду (—бо-ж „всякая власть—от Бога!"), выклікала агульнае абурэньне сярод праваслаўнага насяленьня Польшчы, блізу выключна беларускага і украінскага.

Абурэньне гэтае выявілася ў пратэсьце, напісаным украінскімі паслами і сэнатарамі. Да пратэсту далучылі свае подпісы такжа беларускія паслы і сэнатары, дый два расейцы (пасол і сэнатар).

Пратэст зрабіў вялізарнае ўражаньне на мітрапаліта Дзяніса, на імя якога быў адрысаваны. Львоўская паліцыя сканфіскавала украінскую часопісь, у якой пратэст быў зьмешчаны. Тады аўтары пратэсту падалі ў Сойм інтэрпэляцыю ў справе назаконнай і дзікай канфіскацыі, зьмесьціўшы ў ёй самы пратэст. У такім відзе (ў інтэрпэляцыі) ён быў надрукаваны паўторна. Паліцыя і гэты нумар часопісі сканфіскавала, ня маючы на гэта ўжо ніякага права. Толькі пасьля пратэсту маршалка Сойму, Ратая, урад загадаў зьняць незаконную канфіскацыю.

З прычыны вялікае важнасьці закранутых у пратэсьце пытаньняў падамо ў найбліжэйшых нумарох нашае газэты сказаную інтэрпэляцыю з пратэстам.

**Літэратурныя навіны.** Выйшла ў сьвет вельмі цэнная беларуская кніга: **Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культуры і рэвалюцыйнага руху. Менск. 1924 г.**". У кнізе прынялі ўчасьце найвыдатнейшыя сілы Усходня Беларусі. На зьмест яе зложыліся працы:—1) Тэрыторыя і насяленьне Беларусі.—2) В. Друшчыц.—Галоўныя мамэнты гісторыі беларускага народу.—3) Ар. Смоліч.—Эканамічнае палажэньне Беларусі перад вайною і рэвалюцыяй.—4) Праф. У. Пічэта. Клясавыя супярэчнасьці ў Беларусі напярэдадні рэвалюцыі.—5) Я. Лёсік.—Культурны стан Беларусі к мамэнту Лютаўскае рэвалюцыі.—6) Л. Мышкоўскі.—Асьвета жыдоў у Беларусі да Лютаўскае рэвалюцыі.—7) Я. Дыла.—Р.С.Д.Р.П. на Беларусі.—8) І. Сосіс.—Асноўныя мамэнты ў гісторыі жыдоўскага работніцкага руху ў Беларусі.—9) А. Зімёнка.—Партыя С.-Р. на Беларусі.—10) А. Бонч-Асмалоўскі.—Лібэральна-апазыцыйны рух на Беларусі.—11) А. Бурбіс.—Беларуская Сацыялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы (1903—1907 г.г.).—12) З. Жылуновіч.—Люты-Кастрычнік у беларускім нацыянальным руху.—13) У. Ігнатоўскі.—Вялікі Кастрычнік на Беларусі (X. 1917 г.—II/VII 1920 г.).—14) В. Кнорын.—К. П. на Беларусі. 15) М. Гуткоўскі.—Утварэньне С.С.Р. Беларусі і формы фактычнае сувязі яе з Р.С.Ф.С.Р.—16) У. Ігнатоўскі.—К.П.Б. і беларускае пытаньне.—17) Я. Каранеўскі.—Пасьля-кастрычнікаўскі пэрыяд.—18) С. Некрашэвіч. -Стан культурна-асьветных установаў на Беларусі пры НЭП-е.—20) А. Сташэўскі.—Зямельнае пытаньне.—20) А. Сташэўскі.—Сучаснае палажэньне Беларусі.—21) З. Жылуновіч.—Беларускае пісьменства.

Кніга мае 322 ст. партрэты галоўных дзеячоў, табліцы і карту Беларусі з вызначанымі на ёй этнаграфічнымі межамі Беларусі, а такжа межамі Радавае Беларусі і Заходняе Беларусі.

**Аб аплаце падаткаў.** 100-працэнтны надзвычайны дадатак да зямельнага падатку, які быў вызначаны заплаціць да 10 чэрвеня, адложаны да лістапада. Аднак, гэты адклад без налічаньня пэні мешіме сілу толькі для тых платнікаў, **якія самі, або праз гміну зажадаюць адкладу**.

**Новы закон аб заграні́чных пашпартах.** Сойм прыняў закон аб заграні́чных пашпартах, па якому, апрача льготаў для асоб, што выяжджаюць за граніцу для заробку, навукі, лячэньня, таргоўлі і інш., шмат зьніжана наагул нармальная цана пашпарту, ды нават прадугледжаны выпадкі поўнага звальненьня ад аплаты.

Як ведама, у Сойме паднялася бура, калі п. Грабскі ўнёс урадавы праект, дзе цана пашпарту была назначана ў 150 злотых. Гэта азначала папросту зачыненьне граніцаў. У новым законе яна — толькі 20 — 25 злот.

## Весткі з вёскі.

### Езуіты працуюць.

(*Карэспандэнцыя з Ваўкавыску*).

Ад часу запанаваньня польскае ўлады на землях Заходняе Беларусі зьявілася тут цэлая хмара езуітаў і яўных і тайных, у форме манахаў і ксяндзоў і ў цывільнай вопратцы. Апошніх нямала ёсьць і на вышэйшых кіруючых становішчах у розных „urzędach". Працу вядуць яны надта хітра, абдуманна, скрытна, так што рэдка можна яе вывясьці на сьвет, бо надта лоўка яны хаваюць канцы. Працу сваю з Вільні, Горадні і другіх буйных гарадоў нашага краю, дзе яны надта яе разьвілі, пашыраюць стала і сыстэматычна і на меншыя гарады і мястэчкі. У апошні час вялікую ўвагу зьвярнулі яны на Ваўкавыск, які стаўся буйным цэнтрам іхняй прапаганды. Каля 20 манахаў-езуітаў, якія аселі ў Ваўкавыску, працуюць без адпачынку, зьбіраючы на рэлігійную навуку асобна, то жанчын, то мужчын. Выведываючы ад першых усё, што робіцца ў іх вёсках і нават сем'ях, яны пасьля, як усеведаючыя, намагаюцца рабіць пэўныя ўплывы і на мужчын. І ня можна ня сцьвердзіць факту, што на паасобных „авечках"—мужчынах вясковых уплывы іх адчуваюцца.

Дзякуючы раскладаючым адносінам Польскага Ураду да праваслаўнае царквы ў Польшчы, дзякуючы ўгодніцкаму і „смиренному" адношаньню да гэтае палітыкі Ураду з боку праваслаўных архіерэяў, дзякуючы абядненьню і роспачы сярод вясковага праваслаўнага духавенства, манахі-езуіты надта хітра камбінуюць усё гэта ў сваей агітацыі, бэсьцяць у надта лоўкі спосаб правасл. сьвяшчэньнікаў, паказываюць на развал праваслаўнае царквы і выхваляюць на фоне гэтага рэлігію каталіцкую, як пануючую ў Польшчы, якая — апрача збаўленьня па сьмерці — дае значныя прывілеі ў Польшчы і пры жыцьці.

Адначасна езуіты, хітра працуючы ў школах, прытулках і ў розных узгадаваўчых інстытуцыях, стараюцца ўплываць на прадстаўнікоў польскае ўлады ў мэтах пераводу з аднэй парафіі ў другую праваслаўных сьвяшчэньнікаў, якія карыстаюцца пашанай сярод акалічнага праваслаўнага насяленьня, а то ухітраюцца паставіць справу так, што гэтых загнаных сьвяшчэньнікаў польская ўлада высяляе нават з граніцаў ваяводзтва. Пры гэтым робіцца ўсё так хітра-таёмна, што для староньняга вока зусім няведамы прычыны і асобы, якія вядуць падкопы і падкладаюць міны.

На жаль, — як і заўсёды бывае паміж прадстаўнікоў прыгнечанае рэлігіі ці нацыі, — знайходзяцца людзі, якія за сучавічную полеўку дапамагаюць мацнейшаму ў яго працы, дык і тут, сярод правасл. духавенства, знайходзяцца асобы, якія за мімалётную карысьць для сябе памагаюць праводзіць тайныя пляны ўсемагутнага тут езуітызму.

Жывым прыкладам усяго гэтага зьяўляецца адзін сьвяшчэньнік, які нядаўна вярнуўся з Расеі ў Ваўкавыск і пачаў дабівацца для сябе пасады сьвяшчэньніка Ваўкавыскае царквы. Яго візыты да „ўладу маючых" зрабілі тое, што ён, хаця і прыбыўшы з Расеі, ды надта шыбка дастаў сабе прызнаньне польскага абыватэльства, пашану і уважлівасьць з боку мяйсцовых і цантральных ўладаў. Адначасна ўладаю праводзілася і другая праца. Ад даўжэйшага часу, бо ўжо аж каля 30 гадоў, сьвяшчэньнікам у Ваўкавыску быў да апошняга часу Уладзімір Заньковіч, паважаны ў сваей парафіі духаўнік. Гэты стары і, здавалася, нікому ня шкодны чалавек жыў зусім спакойна, да таго спакойна і ціха, што польская ўлада дала яму ў 1922 годзе нават „dowód osobisty" — пашпарт, бо ён быў прызнаны, як старажыл у Ваўкавыску, обыватэлем Польшчы. Але ён, як досыць уплывовы чалавек сярод праваслаўнае людасьці, быў некаму бяльмом на воку. Пачаліся прасьледаваньні. У 1923 годзе ўлада пазбаўляе Заньковіча абыватэльства і выдаець прыказ аб высяленьні яго з Польшчы. Інтэрвэнцыя некаторых паслоў ў Міністэрстве ў Варшаве затрымала на нейкі час высылку. Пачаліся паездкі Заньковіча ў Варшаву, сьпісана было шмат паперы, страчана было шмат грошай на паездкі, на аплату ўсякіх штэмплёвых, — і ўсё-ж памыснага вырашэньня справы ня відаць. Выганяюць цяпер гэтага Заньковіча з царкоўнага дому і з парафіі. Горадзенскі архіерэй Аляксей з свайго боку забараніў яму выпаўняць абавязкі сьвяшчэньніка ў Ваўкавыску і назначыў на яго мейсца таго прыезднага з Расеі сьвяшч. Дружылоўскага. Улада польская забараніла Заньковічу вясьці працу ў парафіі, зьвязаную з вядзеньнем мэтрыкаў, г. зн. хрысьціць, даваць шлюб і хаваць нябошчыкаў, — значыць, забараніла працу сьвяшчэньніка, як „urzędnika stanu cywilnego".

Стары чалавек. сьвяшч. Заньковіч апынуўся на вуліцы, на бруку, і вышэйшая царкоўная ўлада ў Польшчы не паўстае ў яго абарону, як і ўва ўсіх другіх справах, робленых у мэтах польскае палітыкі і каталіцкае рэлігіі на нашых землях.

Тонкую палітыку езуітаў праводзяць яўна на мейсцы і ў цэнтры польскія цывільныя ўлады, а люднасьць нашая яшчэ дагэтуль не дагадваецца, хто ў гэтым усім найбольш задаець тону і ціхачом кіруе. А трэба ведаць, што гэтую таёмную пружынку і складаюць езуіты.

Як ў самы апошні час стала вядомым, тая група манахаў-езуітаў, якія праводзілі ў Ваўкавыску сваю працу, павандравала цяпер кудысь-ці ў іншае месца. Незадоўга пачуем, мусіць, новыя скуткі іхнай працы на новым мейсцы.

* * *

У гэтай гісторыі з выганяньнем сьвяшч. Заньковіча з межаў Польшчы, як „не абыватэля" Польшчы, цікава адзначыць гэткія факты. Уладзімір Заньковіч і радзіўся і сьвяшчэнстваваў увесь час ў Ваўкавыскім павеце, а, значыць па трактатам Версальскаму і Рыжскаму, а роўна і па польскім законам аб абыватэльстве яму зусім праўна прыслугоўвае права польскага абыватэльства.

Чаму-ж яму не прызнаюць гэтага права?

А дзеля таго, што — на падставе данясеньня ад Беластоцкага Ваяводы — „сьвяшч. Уладзімір Заньковіч 1) дэмонстрацыйна не злажыў просьбы аб наданьні (?) яму абывательства; 2) агітаваў за беларускі сьпісак пры выбарах у Сойм і Сэнат і 3) што ня мае любасьці (?) да Польшчы".

Дзеля чаго-ж было спадзявацца ўладзе просьбы ад Заньковіча аб **наданьні** абывательства, калі яму яно прыслугоўвае, і рэч павінна ісьці толькі аб сцьверджаньні абыватэльства? Няўжо-ж з прычыны агітацыі Заньковіча ў часе выбараў яго трэба выдаляць з Польшчы? калі так, дык трэ'было-б выдаліць з Польшчы усіх каталіцкіх ксяндзоў палякоў, бо хто-ж найбольш агітаваў у часе выбараў, калі не ксяндзы-палякі?

А трэцяе абвінавачаньне — любасьць да Польшчы! — выглядае зусім незразумела. Кожная дзяржава можа вымагаць ад грамадзяніна толькі **лёяльнага** адношаньня да сябе, а любасьць, любасьць да дзяржавы... Э! „насільна мілым ня будзеш!". **N.**

### В. В-Кракотка, Слонімскага пав.

Былі калісь слаўныя часіны ў жыцьці нашай вёскі. Гадоў пятнаццаць у мінуўшчыну мы з дапамогаю ад казны збудавалі школу, але такую харошую якой ня мела воласьць, ды і ў павеце мала было гэткіх школ. Многа яна прынесла сьветлага для сялянства. Да паўтараста дзетак вучылася кожную зіму. Але вайна даканала як сялян, таксама і школу. Прыехаўшы з Расеі, яшчэ засталі бяз вокан і дзьвярэй, адно красавалася надпісь: „Великокракотское 2-х кл. училище" ды шумелі каштаны, ліпы, клёны, ясені, і бэз шчыра надзяляў нас сваім араматам. Як паглядзіш на ўсё гэта, да прыслухаешся да шуму дзярэў, так і здаецца, што ўсё гэта сьпіць, але хутка павінна прачнуцца. Але ня суджана было прачнуцца нашаму сьвятлу, нашай славе. У восені 21 году „бюро адбудовы" узялося за рамонт, але надта шыбка яе адрэмантавала чырвоным пятухом...

Прыбеглі сяляне тушыць, але ўжо было позна, бо ўся школа была ў вагні. Пастаялі, пасумавалі і з слязьмі на вачу пайшлі з хаўтуроў па хатам. Трэці год ідзе, а пра школу чуткі няма. Бюро адбудовы скінула абузу з галавы, урад прадае наш апошні лясок, што дзяды і бацькі нашы гадавалі, а нам у замену нічога не даець. **Цесак.**

Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.